ГРАФІЦІ

## Зноў суд над Шыдлоўскім

25 ліпеня ў судзе Партызанскага раёна Мінска пачнецца суд над Аляксеем Шыдлоўскім і яшчэ трыма актывістамі маладзёжнага руху «Зубр» — Сяргеем Коктышам, Аляксандрам Ермаковым і Анатолем Алізарам. Яны абвінавачваюцца па артыкуле 341 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (апаганенне збудаванняў і пашкоджанне маёмасці) за тое, што ў лютым гэтага года нанеслі графіці на будынак выканкама Партызанскага раёна Мінска і яшчэ некалькі дамоў.

У выпадку прызнання іх віны маладым людзям пагражае пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ, штрафу або арышту на тэрмін да трох месяцаў.

Трэба адзначыць, што Аляксей Шыдлоўскі ў 1997-1998 гадах адбыў паўтара года зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за нанясенне палітычнага антыпрэзідэнцкага графіці, а таксама за зняцце з будынка Стаўбцоўскага райвыканкама дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і замену яго на гістарычны бел-чырвона-белы сцяг.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Кампенсацыя за шкоду

Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя аднавіла збор платы за ўвоз у Беларусь азонаразбуральных рэчываў.

Як паведамілі ў службе інфармацыі мінпрыроды, такая мера адпавядае патрабаванням Манрэальскага пратакола па рэчывах, якія разбураюць азонавы слой, і пастанове ўрада.

У сувязі з гэтым рашэннем юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі пры атрыманні разавага дазволу на ўвоз у Беларусь азонаразбуральных рэчываў і прадукцыі, што іх утрымлівае, павінны ўносіць суму ў памеры 0,6 мінімальнай заработнай платы за кожны кілаграм азонаразбуральных рэчываў, уключна і тых, што ўтрымліваюцца ва ўвозімай прадукцыі.

Плата за ўвоз гэтых рэчываў была часова адмененая пастановай Савета міністраў ад 28 кастрычніка 1999 года дзеля стварэння больш спрыяльных эканамічных умоваў перад забаронай ужывання з 1 студзеня 2000 года азонаразбуральных рэчываў, што маюць высокі разбуральны патэнцыял.

**БелаПАН**

АВІЯЦЫЯ

## Паўсотні «мінімалак» за пасадку

50 мінімальных зарплат у даход Беларусі пералічыў грамадзянін Германіі Эрхард Фольк, які прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за парушэнне правілаў міжнародных палётаў.

1 красавіка гэтага года Эрхард Фольк на самалёце М-12 «Касатка» ажыццявіў вымушаную пасадку ў Брэсцкім аэрапорце. Па гэтым факце была ўзбуджаная крымінальная справа. Падчас следства, якое вяла рэспубліканская транспартная пракуратура, высветлілася, што лётчык не меў злога намеру і вымушаны быў сесці, паколькі самалёт быў няспраўны (перагарэлі генератары, адсутнічала радыёсувязь і г.д.). Іншы лётчык на яго месцы мог бы не справіцца з кіраваннем, але Фолька выратавала веданне мясцовасці — ён неаднаразова садзіўся ў гэтым аэрапорце.

Улічваючы тую акалічнасць, што лётчык не меў злога намеру і поўнасцю прызнаў сваю віну, суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе штрафу ў 50 мінімальных зарплат.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Татальная падпіска

Мясцовая дзяржаўная газета плюс адна рэспубліканская павінны быць у кожным доме Магілёўскай вобласці. Такую задачу на трэці і чацвёрты кварталы гэтага года паставіў перад сваімі падначаленымі старшыня Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура падчас паседжання абласнога выканаўчага камітэта 9 ліпеня.

Паводле словаў загадчыка аддзела па друку аблвыканкама Фёдара Лісовіча, у вобласці выдаецца 26 дзяржаўных газет: 21 раённая, 2 гарадскія, 2 абласныя і адна аблсельгасхарча. Асноўную заклапочанасць уладаў выклікае дзейнасць на тэрыторыі вобласці некаторых недзяржаўных выданняў: раённых газет «Региональные ведомости», «Беларускі ўсход», магілёўскай «Де-факто» і дзвюх крычаўскіх. Астатнія недзяржаўныя СМІ, паводле словаў Лісовіча, так ці інакш падкантрольныя выканаўчай уладзе.

Цікавасць аблвыканкама да мясцовых выданняў абвастрылася ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі. Таму, напрыклад, старшыня Бабруйскага гарвыканкама Міхаіл Бандарэнка запэўніў аблвыканкам, што пра магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, акрамя дзеючага кіраўніка дзяржавы, у газетах яго горада не пішацца і іх дзейнасць не прапагандуецца.

Старшыня аблвыканкама Барыс Батура запатрабаваў ствараць умовы, пры якіх кожная сям'я вобласці выпісвала б рэгіянальнае дзяржаўнае выданне і адну рэспубліканскую газету. Аднак прайшоўшая падпісная кампанія паказала, што зрабіць гэта практычна немагчыма, паколькі чытацкая цікавасць да газет, у прыватнасці, дзяржаўных, паступова падае.

**Канстанцін УВАРАЎ**

АРМІЯ

## Власти Беларуси готовят внутренние войска к выборам

«В первую очередь нынешним летом будут укомплектовываться новобранцами не Вооруженные Силы, а внутренние войска МВД», — сообщила президентская газета «Советская Белоруссия».

По ее утверждению, это связано «с тем, что из-за оттока летом демобилизуемых из внутренних войск возникает нехватка личного состава для обеспечения общественного порядка в регионах».

В войска МВД на прошедшей неделе было отправлено 2.200 призывников.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Дзяржкамдрук незадаволены

Старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі адмовіўся выносіць пратэст на рашэнне суда аб адмене папярэджання, вынесенага Дзяржкамдруку тыднёвіку «Брестский курьер». Такім чынам, папярэджанне Дзяржкамдруку анулюванае.

БелаПАН паведамляў пра тое, што паводле прадстаўлення ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама Дзяржаўны камітэт па друку 13 красавіка гэтага года вынес газеце папярэджанне. Падставай для гэтага паслужыла нататка «Каб сталіца ведала», дзе паведамлялася, што ў Брэсце адбылося паседжанне каардынацыйнай рады аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь». Дзяржкамдрук палічыў, што «Брестский курьер» парушыў Закон аб друку і распаўсюдзіў інфармацыю ад імя незарэгістраванага аб'яднання.

Аднак рэдакцыя звярнулася ў Вышэйшы гаспадарчы суд з просьбай прызнаць папярэджанне несапраўдным. Суд прызнаў довады рэдакцыі і юрыстаў Цэнтра прававой абароны СМІ Беларускай асацыяцыі журналістаў аргументаванымі і папярэджанне адмяніў.

Дзяржкамдрук не згадзіўся з такім зыходам справы і звярнуўся да старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда з просьбай адмяніць названае судовае рашэнне. Ад імя рэдакцыі былі падрыхтаваныя пярэчанні на скаргу. У рэшце рэшт, аргументы прадстаўнікоў газеты аказаліся больш важкімі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

АКЦЫІ



Сябры Гарадзенскай філіі БАЖ праводзяць пікет, прымеркаваны да гадавіны знікнення Дзмітрыя Завадскага.

# ЗША не трэба беларуская сталь

Беларускі металургічны завод, што ў Жлобіне, згубіў выгадны амерыканскі рынак. Як распавёў начальнік аддзела ЗША і Канады ў міністэрстве замежных справаў Ігар Губарэвіч, пасля рашэння міністэрства гандлю ЗША вызначыць памер мыта з імпарту нашай сталёвай арматуры ў 114,5%, яе пастаўкі туды сталі нерэнтабельнымі.

Усё пачалося 17 студзеня, калі амерыканцы ўвялі антыдэмпінгавую маржу на ўвоз сталі з цэлага шэрагу краінаў. Разам з Беларуссю гэта былі яшчэ Польшча, Латвія, Малдова, Украіна, Кітай, Паўднёвая Карэя і Інданезія. ЗША палічылі, што сталёвая арматура з пералічаных дзяржаваў прадаецца на іхняй тэрыторыі па заніжаных нерыначных коштах, што наносіць страты ўнутраным прамыслоўцам, і абвясцілі антыдэмпінгавае расследаванне. А на час, пакуль яно будзе ісці (135 дзён), быў вызначаны часовы антыдэмпінгавы збор, які мусіў дадавацца да заяўленага кошту прадукцыі. Тады БМЗ, адзінаму вытворцу сталі ў Беларусі, быў прадпісаны «штраф» у 74% маржы. Па сканчэнні антыдэмпінгавага расследавання памер мытнага збору павялічыўся да 114%.

У 1999 годзе Жлобінскі металургічны завод рэалізаваў у ЗША 72 тысячы тонаў сталі на агульную суму 12,3 мільёна долараў, за першыя 7 месяцаў 2000 года – 56 тысячаў тонаў на суму 10,2 мільёна долараў (пастаўкі перапыніліся яшчэ да ўвядзення антыдэмпінгавых захадаў). У 1998 годзе доля БМЗ ва ўсім аб'ёме імпартаванай у ЗША сталі склала 2%, у 1999 годзе – 4%, на 2000 і 2001 гады планавалася павялічыць гэтыя паказчыкі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

МУЗЫКА

## Гімн «Бацькаўшчыны»

Уласны гімн з'явіўся ў міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Яго ўрачыстую мелодыю ўпершыню пачулі ўдзельнікі III з'езда беларусаў свету, які прайшоў у Мінску 5-6 ліпеня. Ён быў напісаны кампазітарам Вячаславам Кузняцовым для сімфанічнага аркестра на тэму аднаго з твораў славутага «Полацкага сшытка» XVII стагоддзя.

«Полацкі сшытак» быў знойдзены Адамам Мальдзісам у 60-я гады ў вокладцы уніяцкага трэбніка падчас работы ў бібліятэцы Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. У гэтай своеасаблівай энцыклапедыі-падручніку еўрапейскай музыкі, напісанай лацінкай і кірыліцай у 1640 годзе, прадстаўлена больш чым 600 ананімных твораў англійскіх, беларускіх, італьянскіх, нямецкіх, польскіх, украінскіх і іншых кампазітараў. Толькі адзін твор, арганная фантазія, мае спасылку на аўтара — Пятра Жэлігоўскага.

Паводле словаў заслужанага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка «Беларускай капэлы» Віктара Скарабагатава, музыка гімна «Бацькаўшчыны», напісанага на сярэдневяковую тэму, сугучная старадаўнім сімвалам Беларусі, адлюстраваным на сцягу аб'яднання, — гербу «Пагоня», упершыню згаданаму 700 гадоў таму, і бел-чырвона-беламу палотнішчу.

**Марат ГАРАВЫ**

ЗДАРЭННЕ

## У Кобрыне абваліўся балкон

Два чалавекі загінулі, пяцёра з цяжкімі траўмамі дастаўленыя ў бальніцу ў выніку абвалу балкона ў адным з дамоў Кобрына.

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прэсслужбе Упраўлення МНС па Брэсцкай вобласці, 8 ліпеня ў адной з кватэраў дома на 4-м паверсе кампанія адзначала 29-годдзе Таццяны Ярамчук.

А трэцяй гадзіне ночы сем чалавек выйшлі на балкон. Ён не вытрымаў нагрузкі і абваліўся. Імянінніца і яе сяброўка 32-х гадоў ад атрыманых траўмаў памерлі. У бальніцу з траўмамі грудной клеткі дастаўлены 25-гадовы хлопец, з траўмамі паяснічнага аддзела пазваночніка 19-гадовая дзяўчына, з пашкоджаннямі верхніх дыхальных шляхоў і пераломам сківіцы 15-гадовы навучэнец аднаго з вучылішчаў Драгічына, з траўмамі тулава маладая 29-гадовая жанчына, з закрытымі пераломамі шыйнага аддзела пазваночніка 23-гадовая дзяўчына.

Як удалося высветліць брыгадзе УМНС, якая выязджала на месца трагедыі, балкон знаходзіўся ў аварыйным стане. Некалькі гадоў таму быў зварот у жыллёва-камунальную службу горада з просьбай адрамантаваць балкон пабудаванага ў 1964 годзе дома, аднак камунальнікі абмежаваліся касметычным рамонтам.

**БелаПАН**

ЗДАРОЎЕ

## СупрацьСНІДавае навучанне

22 ліпеня ў Мінску маладыя людзі будуць навучаць адзін аднаго вырашэнню праблемаў, звязаных з распаўсюджваннем і прафілактыкай ВІЧ/СНІД. Гэта будзе адбывацца ў межах семінара-акцыі добраахвотніцкага цэнтра «Роўны навучае роўнага», які створаны на базе маладзёжнага адукацыйнага цэнтра «Фіяльта».

Як паведамілі БелаПАН у офісе «Фіяльты», удзельнікі семінара пачуюць новыя факты па праблеме распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі, даведаюцца ад сваіх аднагодкаў пра спосабы прадухілення заражэння ВІЧ, пачуюць адказы на цікавыя для іх пытанні, а таксама падзеляцца ведамі і выкажуць свае меркаванні наконт гэтай праблемы.

На думку маладзёжных лідэраў, сёння ўжо відавочна, што вырашыць праблему ВІЧ/СНІД толькі сіламі спецыялістаў практычна немагчыма. А для таго, каб выжыць і застацца здаровым, неабходна рабіць самастойны выбар і кантраляваць свае паводзіны самому. Да таго ж, як лічаць у «Фіяльце», інфармацыя з вуснаў маладых людзей будзе лепш успрымацца іх аднагодкамі, а значыць, будзе больш эфектыўнай.

На 1 ліпеня 2001 года ў Беларусі выяўлена 3 тысячы 649 ВІЧ-інфіцыраваных. Пераважная большасць з іх — маладыя людзі рэпрадукцыйнага ўзросту. Пры гэтым тэмпы распаўсюджвання смяротна небяспечнага віруса ў апошнія месяцы імкліва растуць.

**Аляксей АРЭШКА**

## Навальніца нішчыць жывёлаў

З-за моцнай навальніцы і ліўня вечарам 8 ліпеня ў Брэсце быў паралізаваны рух тралейбусаў, зафіксаваныя выпадкі перабояў электразабеспячэння і парушэння тэлефоннай сувязі на ўсёй тэрыторыі вобласці.

15 з 30 пажараў, якія зарэгістраваныя службай міністэрства па надзвычайных сітуацыях у Брэсцкай вобласці з 4 па 9 ліпеня, адбыліся з-за навальніцы.

6 ліпеня каля 23 гадзінаў вечара навальнічны разрад трапіў у слуп паблізу ад вёскі Вістычы Брэсцкага раёна. Электрычны провад правіс і злучыўся з апорай слупа. Гэтак званае крокавае напружанне забіла 6 кароваў з асабістага статку жыхароў вёскі.

6 ліпеня адключэнне электразабеспячэння на птушкафабрыцы ў вёсцы Медна Брэсцкага раёна пацягнула за сабою адключэнне прымусовай вентыляцыі. У выніку загінулі больш за 6 тысяч курэй, 3.215 курэй давялося зарэзаць.

Паводле папярэдніх звестак, страты, нанесеныя з 4 па 9 ліпеня стыхіяй гаспадаркам і жыхарам Брэстчыны, вылічаюцца сумай каля 100 мільёнаў рублёў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

СТЫХІЯ

## Пацярпелі і прыватнікі, і калгас

Звыш за 300 гектараў пасеваў бульбы і збожжавых культур пацярпелі ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці ў выніку граду, які абрынуўся 8 ліпеня.

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні Добрушскага райвыканкама Уладзімір Курылін, ад разгулу стыхіі пацярпелі сельгасугоддзі насельніцтва ў вёсках Уць і Высокі Хутар, дзе жывуць больш за тысячу чалавек, а таксама калгаса «Шлях да камунізму». Пасевы грамадзянаў пацярпелі на плошчы 40 гектараў, калгаса — 270 гектараў. Паводле словаў Уладзіміра Курыліна, на гэтых землях ураджай фактычна знішчаны. Сітуацыя з прыватным сектарам ускладняецца яшчэ і тым, што сяляне, якія маюць больш чым сціплыя заробкі ў калгасе, харчуюцца выключна прадуктамі з уласных участкаў. Магчымым спосабам аказання дапамогі людзям, якія страцілі ў выніку стыхіі ўраджай, будзе адкрыццё пры аблвыканкаме спецыяльнага разліковага рахунку для прыёму ахвяраванняў.

Райвыканкам таксама рыхтуецца дапамагчы людзям аднавіць дахі, паколькі град быў памерам з курынае яйка і на многіх будынках пашкодзіў шыфер і рубероід.

**Ірына ШАНЦАВА**



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Дом Домаша

*Окончание. Начало на стр.1*



Фота Ул. ШЛАПАКА



Фота Ул. ШЛАПАКА

Постовые милиционеры в подъезде, где жил Домаш, раздражали жителей многоквартирного дома. Да и эффективную охрану в таких условиях обеспечить было крайне сложно. Поэтому руководство УВД облисполкома и УКГБ по Гродненской области обратилось в Гродненский областной и городской исполнительные комитеты с просьбой решить вопрос о предоставлении семье Домашей жилой площади в отдельном доме с целью организации эффективной охраны.

21 января 1994 года Гродненский горисполком дал согласие о передаче на баланс ЖРЭУ Ленинского района дома по улице Лермонтова, 38, который находился на балансе ГПО «Азот». В письме от 25.01.1994 г. генеральный директор ГПО «Азот» Лангов В.В. обратился к председателю Комитета по нефти и химии при СМ Республики Беларусь Мордашеву А.А. с просьбой разрешить передать на баланс ЖРЭУ Ленинского района города Гродно вышеупомянутый дом. Комитет по нефти и химии разрешил передачу с баланса ГПО «Азот» на баланс ЖРЭУ Ленинского района дома по ул. Лермонтова, 38, «так как использование его ГПО «Азот» в качестве служебной гостиницы не покрывает затрат на его содержание». Кроме того, разрешение на это было дано Госкомимуществом РБ, а после преобразования его в Мингосимущество РБ, подтверждено последним в 1994 году.

Примечательно, что исключительно за счёт личных средств Семёна Домаша и членов его семьи были проведены работы по капитальному ремонту и реконструкции дома. Прежнюю квартиру С.Домаш передал государству.

После этого прошло более трёх лет, и социально-политическая ситуация в стране изменилась. Семен Домаш не пошёл в так называемую Палату представителей, а продолжал работать в составе Верховного Совета РБ 13-го созыва, создал Координационный комитет «Гродненская инициатива». 26 марта 1997 г. на республиканском селекторном совещании Александр Лукашенко, обращаясь к председателю Гродненского облисполкома Александру Дубко, сказал следующее: «У меня есть к вам один политический, если вы позволите, вопрос. Что там у вас Домаш какие-то демарши политические предпринимает?.. Что и коммунисты с Домашем пошли?.. Нет, так вы расскажите о Домаше все, что мы знаем. Он же мне тогда клялся, когда еще был депутатом, председателем антикоррупционной комиссии, что ему негде жить, что его надо охранять, а то застрелят, и вот на это время я тут вот решил прихватить гостиницу. Он вернул это государству?.. Не вернул. Значит, готовьте документы. Домашкевич, выезжайте туда и готовьте документы, а то у нас определенные люди стали дерьмократами, забыв о том, что они украли у государства, по этому поводу надо периодически напоминать, чего они стоят, и я думаю, там не только коммунисты, но, наверное, националисты за ним не пойдут. Поэтому, Александр Иосифович, должно быть жесткое отношение, принципиальное».

Это указание было незамедлительно исполнено. 2 июня 1997 года председателем Комитета государственного контроля Н.Домашкевичем президенту РБ была отправлена докладная записка, в которой указывалось, что Семену Домашу в собственность было передано государственное имущество без согласования с Мингосимуществом.

Александр Лукашенко уже на следующий день, 3 июня, отдал такой приказ: «О.А. Божелко, Н.Ф. Домашкевичу. В срок до 1 августа 1997 г. собственность государства должна быть ему возвращена. Исполнение доложите». 14 июля 1997 года прокуратурой Гродненской области было направлено исковое заявление в суд Ленинского района Гродно о признании договора купли-продажи дома по улице Лермонтова, 38 недействительным на основании того, что «Ленинский райисполком г. Гродно распорядился имуществом, не имея на то законных прав, т.к. сделка купли-продажи дома была заключена 12.03.1994 г., а согласие Мингосимущества РБ на перевод данного дома из республиканской собственности в коммунальную дано только 08.06.1994 г.». Истец также попросил восстановить пропущенный срок исковой давности (прошло более трех лет), ссылаясь на уважительные причины. При этом к исковому заявлению была приложена вышеуказанная докладная записка Председателя КГК РБ Домашкевича Н.Ф. с резолюцией А.Г. Лукашенко.

Итог данного судебного спора был предрешён уже на стадии подачи искового заявления. В результате семья С. Н. Домаша в составе 6 человек была лишена права собственности на дом, который приобрела на законных основаниях и восстанавливала более трех лет своими силами и исключительно за собственный счет. При этом суд даже не счёл нужным поставить вопрос о возмещении средств на капитальный ремонт и реконструкцию дома, обустройство земельного участка, компенсацию строительства гаража.

С момента принятия решения судом первой инстанции прошло ещё три года. Но издевательства над заложниками — С.Домашем и членами его семьи — не прекратились, а возобновились с новой силой. Гродненские власти не прекращают попытки давления на Домаша — одного из возможных кандидатов на выборах президента. Так, 2 мая 2001 года состоялось новое судебное заседание по иску ЖРЭУ Ленинского района города Гродно о выселении Домаша С.Н. и членов его семьи из дома по улице Лермонтова, 38 с предоставлением другого жилого помещения, поданного в суд ещё 19.06.1998г. на основании прямого указания прокурором области Л.П. Терещенко председателю горисполкома А.М. Пашкевичу 27.03.1998г.

Все эти факты говорят про то, что ситуация вокруг дома Домаша имеет исключительно политический характер. По словам самого Домаша, несмотря на то, что есть решение суда о возвращении дома в собственность государства, его никто не спешит отбирать. Правда, в налоговой инспекции Домашу не смогли дать конкретного ответа на вопрос, следует ли включать дом в декларацию о доходах и имуществе?

**Отдел информации**

# 10 сутак за пытанне аб Завадскім




Два ўдзельнікі прайшоўшага 7 ліпеня ў Мінску пікета ў гадавіну знікнення аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага былі збітыя невядомымі.

Як ужо паведамляў БелаПАН, пікет прайшоў ля будынка Мінаблвыканкама. Трыяго ўдзельнікі – Аляксандр Барадуля, Дзмітрый Фядорчанка і Сяргей Падзолка, былі затрыманыя і ў той жа дзень прадсталі перад судом.

Суддзя Наталля Вайцэховіч пастанавіла пакараць Аляксандра Барадулю, які трымаў у руках плакат «Ожидаем с повинной причастных к исчезновению Завадского», адміністрацыйнаму арышту тэрмінам на 10 сутак па артыкуле 167-1, частка 2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь.

Дзмітрый Фядорчанка і Сяргей Падзолка заявілі хадайніцтва аб удзеле ў судзе сваіх юрыдычных прадстаўнікоў, і суды над імі былі перанесеныя на 11 і 16 ліпеня. Вечарам 7 ліпеня на электрычцы яны выехалі ў Барысаў. Сышлі з цягніка, не даязджаючы горада адзін прыпынак – у Печах. У лесапаласе на іх напала група з пяці маладых людзей, апранутых у спартыўную форму. На думку Дзмітрыя Фядорчанкі, магчыма, гэтая група суправаджала іх з Мінска. Пасля першага ўдару Сяргей Падзолка крыкнуў «За што?» і пачуў у адказ: «Пры іншых абставінах вы б тут засталіся ляжаць назаўсёды».

Двух маладых людзей збілі, прычым грошы і матэрыяльныя каштоўнасці ў іх не адабралі. Таму нападзенне на сябе яны звязваюць з палітычнай дзейнасцю і правядзеннем пікета ў гадавіну знікнення Дзмітрыя Завадскага.

Сяргей Падзолка і Дзмітрый Фядорчанка звярнуліся ў пракуратуру з заявай аб нападзенні на сябе і знялі ў судова-медыцынскай экспертызе сляды пабояў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

**ЗВАРОТ**

# Депутаты Верховного Совета выступили в защиту Валерия Щукина

28 июня лауреата Национальной премии в защиту прав человека, депутата Верховного Совета 13-созыва, журналиста Валерия Щукина, осужденного за попытку пройти на пресс-конференцию в МВД, неожиданно перевели из следственного изолятора ГУВД Мингорисполкома в следственный изолятор УВД Минской области (УЖ 15/8) в городе Жодино. Тюрьма, где сейчас находится Валерий Щукин, считается одним из самых страшных мест лишения свободы в республике. Заключенные там постоянно зверски избиваются охранниками. В переполненных удушливых камерах избитые люди покрываются струпьями и язвами. Руководство и охрана тюрьмы издеваются над людьми просто так, побуждаемые садистскими наклонностями. Последнее, что стало известно о Валерии Щукине, ему насильно сбрили бороду.

Валерий Щукин был осужден на 3 месяца тюрьмы только за то, что пытался пройти на пресс-конференцию министра внутренних дел Беларуси Владимира Наумова, которая устраивалась по поводу расследования «громких дел» о пропавших, известных в Беларуси людей, и проводилась в режимном здании МВД. Журналистов в здание пропускали по утвержденным спискам. Валерий Щукин хотел попасть в эти списки, однако ему было отказано. Валерий Алексеевич попробовал пройти на мероприятие по удостоверению члена БАЖ. Тогда трое милиционеров схватили его и повалили на пол. Журналист при этом случайно разбил ногой стеклянную дверь и был ранен осколками стекла.

Из-за этого незначительного инцидента Валерий Щукин получил 3-х месячный срок, который он сейчас отбывает в пресловутой Жодинской тюрьме, откуда он может выйти инвалидом. Так власть расправляется с бесстрашным депутатом, правозащитником, журналистом.

Мы, коллеги Валерия Щукина, требуем его немедленного освобождения и наказания виновных в противоправных действиях против Щукина

**Депутаты Верховного Совета 13-го созыва:**

**Иван Анушкин, Елена Скриган, Леонид Майструк, Александр Бухвостов, Мечеслав Гриб, Георгий Киберман, Геннадий Усюкевич, Виктор Грунтов, Вячеслав Герасименко, Владимир Башаримов, Владимир Ходасевич, Владимир Тарасов, Григорий Прокопович, Николай Демидов, Николай Бусел, Станислав Богданкевич, Василий Шлындиков, Владимир Нистюк, Семен Домаш, потенциальный кандидат в президенты, Станислав Шушкевич, Тамара Манукова, Марат Афанасьев, Иван Свирид, Александр Добровольский, Эдуард Войцехович, Леонид Юнчик, Геннадий Тереня, Владимир Гончарик, потенциальный кандидат в президенты, Сергей Калякин, потенциальный кандидат в президенты, Павел Знавец, Анатолий Лебедько, Виктор Хомич, Владимир Кудинов, Павел Данейко, Людмила Грязнова.**

**СВЕДЧАННЕ**

# Жонкі зніклых патрабуюць праўды

Людміла Карпенка, Вольга Захаранка, Тацяна Клімава-Леановіч, Святлана Завадская, Ірына Красоўская 9 ліпеня, падчас знаходжання ў Парыжы звярнуліся да міжнароднай супольнасці і, у прыватнасці, да Парламенцкай асамблеі АБСЕ, з просьбай стварыць незалежную міжнародную камісію па расследаванні абставінаў знікнення іх мужоў.

Як паведамляе прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, у Парыжы яны сустрэліся з дэпутатамі ПА АБСЕ. Дэпутаты з Германіі, Грузіі, Іспаніі, Партугаліі, Швецыі, Нарвегіі, Славакіі і іншых краінаў выказалі вялікую цікавасць да гэтай сустрэчы. Былы прэзідэнт Бундэстага ФРГ Рыта Зюсмут заявіла: «Мы павінны прыцягваць увагу да беларускай праблемы не толькі палітыкаў, але і шырокай грамадскасці. Трэба падтрымаць падобную ініцыятыву і практыку».

Каментуючы вынікі сустрэчы, адзін з яе арганізатараў, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька адзначыў, што «галасы 5-х жанчын, якія прагучалі ў Парыжы, раўназначныя 20-тысячнай маніфестацыі».

Візіт жонак зніклых без вестак беларускіх палітыкаў праходзіў у межах кампаніі «Хочам ведаць праўду», якая стартавала ў траўні ў Мінску. Раней яны правялі прэс-канферэнцыю для вядучых расійскіх СМІ ў Маскве, а цяпер з Парыжа накіруюцца ў ЗША.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

**ГРАМАДСТВА**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Прэс-канферэнцыя сяброў аргкамітэта Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Хельсінкі XXI», якое мінюст не жадае рэгістраваць.

# Старое віно ў... старыя мяхі

*Не адзін раз згадваўся калектыўны ліст на імя прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь сп. Лінга, які яшчэ ў верасні 1999 года падпісалі трыццаць восем дзеячаў навукі і мастацтва. Вядомыя ў Беларусі людзі з заклапочанасцю выказваліся пра нездавальняючы стан помнікаў старажытнасці, шэраг з якіх з блаславення Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ператвараюцца ў цалкам сучасныя камяніцы.*

І вось чарговая нагода для працягу размовы: 27 чэрвеня афіцыйна апублікаваная пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь № 862, якая называецца «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання ў сферы аховы і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны» Гэты ўрадавы дакумент стаў вынікам дастаткова доўгай дыскусіі адносна выканання заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. А дыскутаваць было і ёсць пра што.

З году ў год ігнаруюцца правілы дзейнасці ў межах ахоўнай зоны Верхняга горада беларускай сталіцы, якая была зацверджаная рашэннем Мінскага гарвыканкама ад 21 лютага 1979 г. Паводле гэтага дакумента, у прыватнасці, абмежаваны рух транспартных сродкаў у раёне, акрэсленым вуліцай Інтэрнацыянальнай, набярэжная ракі Свіслач ад рэстарана «Журавінка» да вуліцы Няміга, вуліцай Няміга з уключэннем тэрыторыі Петрапаўлаўскай царквы, вул. Камсамольскай да яе перасячэння з вул. Інтэрнацыянальнай. Але насуперак патрабаванням умоваў утрымання ахоўнай зоны ў гістарычным цэнтры Мінска, які з'ўляецца помнікам горадабудаўніцтва і архітэктуры рэспубліканскага значэння і мае катэгорыю аховы «1», аўтамабілі ў яго межах пачуваюць сябе значна вальготней за людзей.

Сістэма добраўпарадкавання кварталаў гістарычнай забудовы ніяк не адлюстроўвае іх старадаўняй сутнасці. Што на вуліцах сучаснага горада, што ў гістарычным цэнтры традыцыйны да нядаўняга часу асфальт без сумнення мяняюць на бесераўскую плітку. Не іначай, як з мэтай стварэння выгодаў для «мерседэсаў» ды «маздаў» быў знішчаны брук, ацалелы на вуліцы Герцэна.

Такое ж брукаванае машчэнне, толькі закатанае пад асфальт, літаральна пару месяцаў таму было выбранае каўшом экскаватара на плошчы Свабоды ў ходзе добраўпарадкавання пад'езду да адбудаванай часткі «дома Шменкеля». Ведама ж, гарадскія чыноўнікі, якія атабарыліся ў памяшканнях з «еўрааддзелкай» інтэр'ераў, не павінны адчуваць няўтульнасць ні ў будынку, ні побач з ім.

А некалі ж была выдадзеная спецыяльная пастанова ЦК КПБ і Савета міністраў БССР аб размяшчэнні ў гэтым архітэктурным помніку Музея беларускай гісторыі. Якая там гісторыя, калі і сама Беларусь спакваля пускаецца з малатка ці не за панюх табакі! Колькі той гісторыі ў беларусаў. Для яе паказу хутка стане зашмат і будынка на Карла Маркса,12, дзе туліцца Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

А колькі ўжо заменена ў помніках архітэктуры аўтэнтычнай сталяркі на вырабы з ПВХ? І нікому да гэтага няма справы.

Пералік грубых парушэнняў Закона аб ахове спадчыны можна было б прадаўжаць. Але справа нават не ў колькасным пералічэнні. Галоўным становіцца якасны паказчык. Горадабудаўнічая палітыка ў Мінску, як, зрэшты, і ў Віцебску, Магілёве, Гродне, іншых гістарычных гарадах здаўна ажыццяўляецца без увагі на іх старажытны аб'ёмна-планіровачны характар.

У 60-70-я гады гістарычны цэнтр Мінска быў гвалтоўна парваны на кавалкі. Сёння асобныя яго часткі нават не маюць між сабой візуальных сувязяў. Праблемай з'яўляецца патрапіць з Верхняга горада ў Ракаўскае або Траецкае прадмесці. Пра запаведную тэрыторыю мінскага замчышча засталіся толькі ўспаміны. Сучасная будаўнічая індустрыя, аснашчаная магутнымі тэхнічнымі сродкамі, нахрапіста лезе менавіта ў самае сэрца беларускай сталіцы. Колькі было дыскусіяў адносна пракладкі другой лініі Мінскага метрапалітэна пад Верхнім горадам і будаўніцтва станцыі «Няміга» ў культурных пластах замчышча!



Няміга. Наўмысна закрытая жылым домам старажытная Петрапаўлаўская царква. Прыклад мінскай непавагі да спадчыны

А сучасныя горадабудаўнікі працягваюць нежартоўны наступ на гістарычную забудову. Ім мала было руйнавання старажытнай Нямігі, шматлікіх іншых гістарычных будынкаў. Яны не задаволіліся спарудай Палаца Рэспублікі, які цёмным цяжарам наваліўся на Верхні горад. Іх ненасытны імпэт не наталіўся ўзвядзеннем на месцы колішняй «Журавінкі» архітэктурнай спаруды, якая захінула ладны кавалак панарамы Верхняга горада. Зараз ім заманулася без уліку патрабаванняў заканадаўства аб ахове спадчыны ўгрувасціць за музеем Вялікай Айчыннай вайны гатэль на трыццаць паверхаў. І нават ценю сумнення не ўзнікла з нагоды невыканання артыкула закона, якім забараняецца «распрацоўка праектаў раённай планіроўкі, развіцця і рэканструкцыі гарадоў... без нанясення прынятых або распрацоўкі неабходных зонаў аховы матэрыяльных нерухомых каштоўнасцяў».

Ці дапускае, шаноўны чытач, каб нехта наважыўся перапісаць Рэмбранта або прыставіць рукі Венеры Мілоскай? Такая думка, па меншай меры, будзе аднесеная да катэгорыі абсурдных. Іншы падыход існуе пры рабоце з помнікамі архітэктуры. Гістарычны будынак не можа абараніць нават імя знакамітага яго стваральніка. Пагроза перайначвання і нават поўнага знішчэння навісае над выдатнымі творамі канструктывізму, створанымі ў Мінску славутым архітэктарам передваеннай пары Георгіем Лаўровым.

Падобна, такі ж лёс наканаваны і будынку колішняй гасцініцы «Беларусь», распрацоўка праекта знешняга і ўнутранага аблічча якой, абсталявання памяшканняў, дэталяў інтэр'ера была здзейсненая архітэктарам Аляксандрам Воінавым, пералік уганараванняў якога займае не адзін радок уборыстага тэксту.

Здавалася б, бяры гатовыя чарцяжы, якія захоўваюцца ў архіве тэхнічнай дакументацыі, дапасуй да задумаў славутага творцы сучасныя тэхналогіі і матэрыялы, выкарыстай звесткі аб знакамітасцях, якія спыняліся ў гатэлі за немалую гісторыю яго існавання, і адбою ад пастаяльцаў не будзе. Падобнае рэтра з адпаведным сэрвісам пацягне на ўсе пяць зорак. Але ў дакументах на яго рэстаўрацыю прадпісана захаваць толькі два вулічныя фасады. Ва ўсім астатнім гэта будзе цалкам новы будынак. Будучы гатэль можа і пацягне на дастатковую колькасць зорак. Але ж будзе страчаны выдатны помнік архітэктуры, які цалкам адпавядаў бы свайму першапачатковаму прызначэнню, што, дарэчы, не часта ўдаецца захаваць.

Пералічаных вышэй выпадкаў процьма. У гэтай сувязі пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання ў сферы аховы і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны» прачытваецца не без насцярожанасці. Што ж істотна мяняецца з прыняццем гэтага дзяржаўнага дакумента?

Бадай, галоўны яго пафас закладзены ў пункце першым, якім вызначаная рэарганізацыя Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь і Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры тым самым міністэрстве «шляхам іх зліцця з утварэннем **Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь».** Быў Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і застаецца. У яго **ўліваецца** Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў. Вось і ўся нескладаная механіка рэарганізацыі. Ёсць, праўда, даручэнне «да 1 студзеня 2002 г. унесці ва ўстаноўленым парадку ў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы па ўдасканаленні дзейнасці па ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Хто ж гэтыя прапановы будзе ўносіць? З пастановы вынікае, што той самы Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

Сумненні адносна істотных зменаў у справе аховы помнікаў старажытнасці ў сувязі з пастановай Савета міністраў узнікаюць яшчэ і на падставе пазіцыі старшыні Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны **Дзмітрыя Бубноўскага. Менавіта яго подпісам пазначаны ўзгадненні, паводле якіх былі зруйнаваныя помнікі архітэктуры на пл. Свабоды, 19,21, на вул. Камсамольскай, 5,7,9/16.** Старшыня Камітэта, які ў адпаведнасці з заканадаўствам абавязаны прадухіляць страты адметных вартасцяў каштоўнасцяў, іх навукова неабгрунтаваныя змены», **санкцыянаваў узвядзенне на месцы гістарычнай забудовы сучасных новабудаў, чым задаволіў запатрабаванні іх новых уласнікаў на павелічэнне аб'ёмаў памяшканняў з мэтай атрымання максімальна магчымых прыбыткаў.**



Мінск. Старадаўнюю забудову вул. Інтэрнацыянальнай скажае безгустоўны хмарачос. Яшчэ прыклад непавагі да спадчыны

Толькі за апошні час Д.Бубноўскі двойчы выказаўся не на карысць нацыянальнай спадчыны народа Беларусі. Разважаючы ў газеце «Звязда» (2 чэрвеня 2001 г.) адносна лёсу мінскай ратушы, ён паставіў пад сумненне гістарычную вартасць сквера на Верхнім горадзе і размешчаных у ім малых архітэктурных формаў. Будучыню важнейшага помніка горадабудаўніцтва і архітэктуры непасрэдна адказны за яго ахову высокі дзяржаўны чыноўнік прапануе вырашыць не на падставе навукова абгрунтаванага праекта рэгенерацыі тэрыторыі, а паслугуючыся густам пэўных асобаў. Як вядома, абмеркавання архітэктурнай ідэі аднаўлення ратушы і арганізацыі тэрыторыі вакол яе не праводзілася. У той жа час, што вынікае з газетнай публікацыі, ужо падрыхтаваны да рэалізацыі праект, якім прадугледжанае **стварэнне абшырнай падземнай прасторы пад пляцам існуючага сквера**. Узнікаюць сумненні, што скарыстаная яна будзе для размяшчэння музейнай экспазіцыі. Гэты грандыёзны па сваіх затратах праект напаткае, верагодней, лёс комплексу будынкаў на плошчы Свабоды, 2-10, які так і не быў адрэстаўраваны для патрэбаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры.

Другое, адметнае сваім зместам, выказванне Д.Бубноўскага датычыць Кальварыйскіх могілак у Мінску. Цяжка паверыць у тое, што старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны не ведае пра існаванне рашэнняў Мінскага гарвыканкама № 205 за 1990 г. і № 692 за 1992 г., якія ў якасці аб'екта дзяржаўнай аховы вызначылі «комплекс Кальварыйскіх могілак» плошчай 14 га, а ў складзе яго касцёл, браму, шэраг магіл знакамітых асобаў. А калі ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў уключаныя толькі два архітэктурныя аб'екты, як сцвярджае Д.Бубноўскі, то на падставе якіх навукова абгрунтаваных аргументаў з-пад аховы дзяржавы выведзены комплекс могілак? І чаму да гэтага часу, насуперак вызначанай у артыкуле восем Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны кампетэнцыі Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, не вырашаныя пытанні, звязаныя з «вывучэннем гісторыка-культурнай спадчыны, выяўленнем і ўлікам каштоўнасцяў». У дадзеным выпадку гэта датычыць канкрэтнага помніка — Кальварыйскіх могілак. Але ж тое самае можна гаварыць і ў адносінах больш 15 тысяч аб'ектаў спадчыны, якія фармальна дзяржавай ахоўваюцца, але вызначаны на выкананне такіх функцыяў дзяржаўны орган за іх адказнасці не нясе.

Якое ж чакаецца ўдасканаленне «сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання ў сферы аховы і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны», калі хаця б дзеля прыстойнасці не памянялі назву Камітэта, праз дзейнасць якога спадчына народа Беларусі спазнала немалыя страты, а яго старшыня, нават не дачакаўшыся прасыхання чарніла на дакуменце, працягвае выказваць ранейшае непаважлівае стаўленне да помнікаў старажытнасці?!

Некага на вярхах гэта надта задавальняе.

**Ян КАСТЫКА**

**АКЦЫІ**

# Моладзь абараняе лошыцкую сядзібу

8 ліпеня актывісты маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Гісторыка» ладзілі акцыю па абароне Лошыцкага сядзібна-паркавага ансамбля, які знаходзіцца побач мінскага камвольнага камбіната на вул. Маякоўскага, цяпер ужо ў цэнтры вялікага мікрараёна. Удзельнікі акцыі паставілі мэтай прыцягнуць увагу да занядбанага стану гістарычна-вядомай мінскай сядзібы. Яна займае прыгожую мясцовасць, якая, на думку даследчыкаў, асвойвалася чалавекам ужо 2 тысячы гадоў таму, задоўга да прыходу ў гэтыя мясціны славянаў. Другая задача маладзёжнай культурнай акцыі заключалася ў захаванні пабудоваў ансамбля ад мінскіх альпіністаў, якія пастаянна збіраюцца тут для трэніровак на сценах млына — помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Сябры «Гісторыкі» надалі мерапрыемству прывабны характар забаўляльнага шоу-перформанса, які спалучаўся з пазнавальнай экскурсіяй. Апранутая ў нацыянальныя касцюмы моладзь разам з намеснікам дырэктара Лошыцкага парку Яўгенам Церахавым падаравалі альпіністам цагліну як сімвал пажадання і магчымасці збудаваць уласную і больш зручную, чым старадаўні млын, сцяну для набыцця досведу ў альпінісцкай навукі, а таксама грамату, якая змяшчала надзею на сумесную дзейнасць па захаванні спадчыны продкаў. Альпіністы адгукнуліся на паважлівыя адносіны і далучыліся да працяглай змястоўнай экскурсіі па рамантычным Лошыцкім парку.

Да месца зазначыць, што размовы пра пабудову спецыяльнай горкі для трэнінгу альпіністаў вядуцца ў адпаведных колах Мінска ўжо не меней за 30 гадоў. За гэты час некалі маладыя альпіністы паспелі састарэць і выгадаваць новае пакаленне, а гарадскія і рэспубліканскія ўлады гэтак і не вынайшлі крыху грошай, каб вырашыць набалелую праблему. Раней моладзь выкарыстоўвала для сваіх трэніровак магутныя сцены зачыненых касцёлаў і цэркваў, а цяпер бесгаспадарчых пабудоваў значна паменела. Дзіўна, што яны чамусьці знаходзяцца пад апекай міністэрства культуры. Таму добрай агульнай акцыяй моладзі магла б стаць пабудова адпаведнай трэніровачнай гары. Што паспрыяла б і захаванню гістарычных помнікаў, і ўмагчыміла б маладым аматарам альпінізму любімы занятак.

**Эліза КУРЛОФ**



# Праз радавод сям'і – лёс Беларусі

Конкурс «Мой радавод: Лёс сям'і ў XX ст.» ладзіўся мінскім грамадскім аб'яднаннем «Дыярыуш» на працягу 2000-2001 гадоў. Галоўнай мэтай конкурсу было абуджэнне цікавасці дзяцей і падлеткаў да вывучэння «блізкай гісторыі»: гісторыі дзядоў, бацькоў, сваякоў, і той гісторыі, якая жыве ў памяці блізкіх людзей, у старых дакументах, фотаздымках. Вывучэнне блізкай гісторыі дазваляе лепш асэнсаваць гісторыю краіны.

Упершыню падобныя конкурсы пачалі ладзіцца каля 30 гадоў таму ў Заходняй Нямеччыне; праз нейкі час гэта зацікавіла ўсіх школьнікаў Заходняй Еўропы, а некалькі гадоў таму конкурсы па вывучэнні «блізкай гісторыі» сталі ладзіцца ў краінах Сярэдняй Еўропы (Польшча, Украіна, Балгарыя, Славенія).

Першы ўсебеларускі конкурс быў праведзены грамадскім Архівам найноўшае гісторыі ў 1998-99 гадах. Тады ў конкурсе «Блізкая гісторыя. Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965» узяло ўдзел болей за 130 школьнікаў. У 1999 годзе на сумесны беларуска-ўкраінскі конкурс «Чалавек.Час. Помнік» даслалі свае працы 143 беларускія гісторыкі, літаратары, культуролагі: Віталь Скалабан, Ігар Кузняцоў, Вацлаў Арэшка, Алег Трусаў, Ларыса Андросік, Уладзімір Арлоў, Захар Шыбека, Лявон Баршчэўскі. Праца журы складалася з трох этапаў. На першым этапе з агульнай колькасці дасланых працаў у другі тур рэкамендаваліся тыя працы, якія тэматычна адпавядалі ўмовам конкурсу. У другім і трэцім турах падыход да працаў быў больш жорсткім: улічвалася арыгінальнасць сабранага дакументальнага матэрыялу, самастойнасць даследчыка, уменне выявіць сувязь між гісторыяй сям'і і гісторыяй краіны. У трэці тур выйшла 121 праца, у фінал – 45. Дыпломы I ступені атрымалі Антон Ермалёнак (Міёры), Дзмітрый Макаўчук (Пінск), Яўген Бельскі (вучань ліцэя імя Я.Коласа, Мінск), Аляксей Яцукевіч (Мінск), Вераніка Патоцкая (Баранавічы).

На сёлетні конкурс прыйшло шэсць працаў з бабруйскай дзіцячай калоніі. Па рашэнні арганізацыі «Рэгіянальная Беларусь», якая аказвала дапамогу пры арганізацыі конкурсу ў рэгіёнах, і яе лідэра Сямёна Домаша шасці гэтым вучням бабруйскай ВСОШ



Свята ўдзельнікаў конкурса

школьнікі, 15 пераможцаў паехалі на канферэнцыю ў Львоў.

Метадычную дапамогу пры падрыхтоўцы беларускіх конкурсаў аказвае *Korber-Stiftung* (Нямеччына) і *Osrodek KARTA* (Польшча).

Конкурс «Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагоддзі» быў абвешчаны 15 кастрычніка 2000 года. Працы прымаліся да 1 траўня 2001 г. Удзел у ім маглі браць вучні сярэдніх навучальных установаў: школ , ліцэяў, каледжаў, гімназіяў, ПТВ, тэхнікумаў.

Як адзначыла Ірына Коваль, сакратар гэтага конкурсу, 294 працы былі напісаныя з куратарамі (настаўнікі беларускай мовы, літаратуры, айчыннай гісторыі), 276 дасланыя з гарадоў, 22 – з пасёлкаў. З Мінска паступіла 114 працаў, лідэрам сярод рэгіёнаў стаў Светлагорск – 16 працаў, 64 працы прадставіў Мінскі машынабудаўнічы каледж. Усе працы напісаныя на беларускай мове, акрамя адной (па-расійску).

Трэба адзначыць, што на конкурс было даслана 10 працаў шасцікласнікаў, высокі ўзровень якіх быў адзначаны журы конкурсу, куды ўваходзілі вядомыя № 5 будуць перададзеныя адмысловыя падарункі.

Усе працы будуць захоўвацца ў архіве, а ўвосень плануецца выданне анталогіі з тэкстамі працаў удзельнікаў. Як зазначыў Лявон Баршчэўскі, калі б кожны здолеў напісаць свой радавод, тады Беларусь заганарылася б сваімі сынамі, сваёй гісторыяй, тады Беларусі будзе забяспечанае пераўтварэнне ў дэмакратычную краіну.

Партнёрамі ГА «Дыярыуш» па правядзенні конкурсу «Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагоддзі» выступілі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Таварыства беларускай школы, грамадская ініцыятыва «Культурны кантакт», Згуртаванне беларускай шляхты, Беларуская музычная альтэрнатыва, Свабодны прафсаюз Беларускі, газеты «Рабочы», «Наша Ніва», «Беларуская маладзёжная», «Радыё Рацыя».

Пераможцаў усебеларускага даследчыцкага конкурсу школьнікаў «Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагоддзі» павіншаваў рок-гурт «Палац».

**Ірына ТОЎСЦІК**



Святочны торт для пераможцаў

# Сталин любил рисовать и читать книги Ленина

## *Это удовлетворяло его чувство юмора*

Недавно обнаруженные рисунки и карикатуры, автором которых считается Иосиф Сталин, возможно, позволят лучше понять склад ума одного из самых безжалостных диктаторов 20-го века. По свидетельству историка, члена Российской Академии наук Бориса Илизарова, во время заседаний Политбюро ЦК ВКП(б) Сталин нередко рисовал оскорбительные карикатуры на некоторых из своих будущих жертв. На одной такой карикатуре, которая, по мнению г-на Илизарова, датирована примерно 1930-м годом, сталинский министр финансов Николай Брюханов изображен голым, подвешенным за половые органы. Этот рисунок был найден вместе с запиской, написанной и подписанной Сталиным, в которой этот тиран не пытается скрывать своего удовлетворения в связи с той участью, которую он предопределил для г-на Брюханова, к тому времени уже четыре года являвшегося членом Политбюро. В записке, вверху которой стоит гриф «Особое досье», говорится: «Всем членам Политбюро. Брюханова за его нынешние и будущие прегрешения следует подвесить за яйца. Если они выдержат, тогда следует признать его невиновным, все равно что оправданным по суду. Если они оторвутся, его следует утопить в реке». Г-н Брюханов был казнен по приказу Сталина в 1938 году по сфальсифицированному обвинению. В 1956 году, через 3 года после смерти Сталина, он был реабилитирован.

Копию карикатуры и записки г-н Илизаров взял из государственного архива. Не так давно он также обнаружил документы КГБ СССР, из которых следует, что у Сталина был незаконнорожденный сын от 14-летней девушки. Эту любовную связь Кремль держал в тайне многие десятилетия. Сотни архивных томов по Сталину, который правил Россией с 20-х годов до самой своей смерти в 1953 году, остаются закрытыми даже для ученых.

«Эти рисунки предоставляют нам уникальную возможность заглянуть в его изощренный ум, — заявил г-н Илизаров, который сейчас пишет книгу о Сталине. — Не сомневаюсь, что есть еще множество подобных карикатур, которые высвечивают глубину его души». В архивах хранятся более 500 рисунков и карикатур. Десятки из них были нарисованы членами ближайшего окружения Сталина, в том числе портреты Николая Бухарина, доверенного лица Сталина, который также был казнен в 1938 году. Еще одним плодовитым рисовальщиком карикатур в Кремле был Валерий Межлаук, правая рука Сталина, который умер в тот же год.

Но г-н Илизаров считает, что многие из рисунков исполнены лично Сталиным в годы, когда его репрессивная политика унесла 20 миллионов жизней. Несколько экспертов подтверждают, что записка о г-не Брюханове написана рукой Сталина. «Рисунок и записка взяты из одного и того же досье, и я не сомневаюсь, что обе работы принадлежат Сталину», — сказал г-н Илизаров, отметив при этом, что на карикатуре г-н Брюханов изогнулся, как кошка. Г-н Илизаров считает, что эта карикатура является отражением ранних лет жизни Сталина, когда он наблюдал и, возможно, сам помогал другим детям мучить кошек. «Будучи ребенком, он присутствовал на нескольких казнях преступников через повешение, — сказал он. — У него было чувство юмора хулигана. Он любил унижать и высмеивать тех, кто его окружал. Он был садистом, особенно с людьми, которые над ним посмеивались». Сталин во время долгих заседаний Политбюро нередко рисовал синим карандашом.



В архивах имеются также десятки книг из его личной библиотеки, на полях которых он делал надписи и нередко рисовал оскорбительные силуэты людей, о которых читал. В его экземплярах ленинских трудов он делал комментарии, оскорбительные для отца русской революции, рисовал огромные знаки вопроса и рядом писал «Ха-ха-ха!». «Сталину очень нравилось черкать свои книги и документы, — заявила архивариус Лариса Роговая, которая имела доступ к сталинским архивам. — Он также рисовал на полях своих книг. И в приписках он не обращал внимания на свой язык. После разгрома фашистов он стал еще большим мегаманьяком. Он писал речи и по тексту делал разметки, где и как долго аудитория должна была, по его мнению, ему аплодировать».

**Марк ФРАНЧЕТТИ**
**(«The Sunday Times», Великобритания)**

# Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць?

*Лепшая футбольная каманда Беларусі мінулага года — мазырская «Славія» — згуляе сёння позна ўвечары на Фарэрскіх астравах першы з двух паядынкаў 1 кваліфікацыйнага раунда Лігі чэмпіёнаў 2001-2002. Яе сапернікам будзе аматарскі клуб з горада Вагур, для якога сустрэча, нягледзячы на амаль векавую гісторыю клуба, стане толькі трэцяй на еўрапейскай арэне.*

Фаварытам пары стопрацэнтова можна лічыць беларускіх футбалістаў, і ніякіх іншых вынікаў, акрамя дзвюх перамогаў, ды яшчэ з буйным лікам, чакаць мы ад мазыран не можам. Толькі чатыры легіянеры, тры палякі і югаслаў, неяк прафесійна ставяцца ў «Вагуры» да сваіх абавязкаў, дарэчы, адзін з іх, Кшыштаф Папчынскі, лідэр фарэрцаў і лепшы іх бамбардзір, з'яўляецца таксама галоўным трэнерам. Астатнія займаюцца рыбнай лоўляй і ў вольны час гуляюць у футбол. Можна яшчэ шмат чаго цікавага паведаміць аб незвычайным феномене астравіцянаў, але гэта ім моцы не дабавіць і шанцаў на поспех не павялічыць! З усіх пяці беларускіх камандаў, якія выступаюць у сёлетнім сезоне ў еўракубках, падначаленым югаслаўскага спецыяліста Улады Петравіча, пашанцавала больш за ўсіх.

A вось адну навіну, і даволі непрыемную, з лагера беларускага чэмпіёна мы паведаміць абавязаны. Лепшы гулец «Славіі», член нацыянальнай зборнай Беларусі, яе адзіны на-




Раман Васілюк - без права на гульню.

мінальны нападаючы Раман Васілюк, не быў уключаны ў склад мазыран на паездку. Больш за тое — ён выстаўлены на трансфер і пазбаўлены магчымасці гуляць у футбол у матчах беларускага першынства. Такога інцыдэнту ў беларускім спорце яшчэ не было. Акрамя таго, усе футбалісты, да асобага распараджэння кіраўніцтва, не маюць права адказваць на пытанні прадстаўнікоў прэсы, абмяркоўваць жыццё клуба і гэтак далей. Не вельмі зразумелае табу на слова! На ўсе просьбы пракаменціраваць сваё сенсацыйнае рашэнне з боку мазыран захоўваецца поўнае маўчанне. Не маем мы права ўмешвацца ва ўнутраныя справы клуба, але ўпэўненыя, павінна быць дадзеная адзнака здарэнню з боку рэспубліканскай федэрацыі. Галоўную зборную краіны чакаюць прынцыповыя сустрэчы адборачнага турніру да чэмпіянату свету супраць украінцаў і палякаў, а тут, на роўным месцы, яна можа страціць адзінага футбаліста, які добра ведае, як атакаваць вароты саперніка...

На вялікі жаль, настаўнік каманды , усё той жа Петравіч, не адзіны раз скардзіўся, што спартыўныя журналісты не вельмі «любяць» і яго, і каманду, а некалькі дзён таму, у інтэрв'ю папулярнай спартыўнай газеце «Прэсбол», Раман Васілюк даволі крытычна ацаніў сітуацыю, якая зараз існуе ў «Славіі», аналізаваў прычыны, чаму яна ніяк не можа выйсці на ўзровень свайго былога чэмпіёнскага «почарку», а крытыка, як вядома, не заўжды падабаецца. У адказ з'явіўся вось такі ўказ.

Парадавала сваіх шматлікіх аматараў мінскае «Дынама», якое выйшла ў трэці раунд Кубка УЕФА Інтэртота. Адзіны гол, забіты яе лідэрам Пятром Качурам у выязным матчы ў вароты гаспадароў, ізраільскага « Хапаэля», прынёс перамогу беларускім футбалістам — 1:0, і, па выніках дзвюх сустрэчаў, далей у сетцы розыгрышу засталіся яны. Наступнае выпрабаванне для каманды Аляксандра Піскарова будзе значна цяжэйшым, таму што ў наступных гульнях ім прыйдзецца сустрэцца з прадстаўніком нямецкага футбола, клубам першай бундэслігі «Вольфсбургам». Гэта хаця яшчэ далёка не «Барусія» ці, скажам, «Баварыя», але прайсці трэці бар'ер будзе складана. «Замак ваўкоў», так можна перавесці назву чарговага саперніка мінчан з аднайменнага горада ў Германіі. Ёсць «воўчыя» карані і ў прозвішчы яго настаўніка — Вольфганга Вольфа. Можна толькі ўявіць сабе, якую гульню прапануе дынамаўцам гэтая ледзь не «воўчая зграя»... «Папацець» нашым хлопцам прыйдзецца занадта.

Пяты сезон у гэтай самай хваленай лізе гуляе «Вольфсбург», і месцы, якія ён займаў — 14, 6, 7, 9 — могуць зрабіць уражанне аб тыповым серадняку. Прынамсі, апошні вынік, дзевяты радок сярод 18 калектываў, самае дакладнае сведчанне таму. За немцаў гуляе шмат легіянераў, якія прадстаўляюць ледзь не палову еўрапейскіх краінаў: Польшча, Харватыя, Шатландыя, Данія, Аўстрыя, Румынія. Калі дадаць у гэты спіс яшчэ Аўстралію, Гану ды Нігерыю, узнікне пытанне, які футбол нам прапануюць «ваўкі»? Тры гады таму «Вольфсбург» дэбютаваў у Кубку УЕФА і зараз мае ў сваім актыве 10 праведзеных матчаў, з якіх па тры разы выйграваў і рабіў нічые (астатнія прайграў), у колькасці забітых і прапушчаных мячоў мае раўнавагу. 11 — 11. Яго сапернікамі былі французскія «Осер» і «Седан», галандская «Рода», мадрыдскі «Атлетыка».. Лепшым дасягненнем можна лічыць выхад у адну шаснаццатую розыгрышу Кубка УЕФА, дзе немцы і саступілі іспанцам.

«Вольфсбург» і «Дынама» сустрэнуцца двойчы. 14 ліпеня ў Германіі, праз тыдзень — у Мінску.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1731 Нумар падпісаны ў друк 10/07/2001 (15:00) Наклад – 9.210